# Самапамач — Samapamač

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

| Год V. | Вільня, Верасень 1936 г. | № 9. |
| --- | --- | --- |

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!*

ЯНКА КУПАЛА



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ
(*Ірляндзец*).



ЗЬМЕСТ № 9 (50)



# Ceny ŭ Vilni

**Zbožža.** *25.IX.36, za 100 kilohram.*

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . . | 15.50—16.00 |
| Pšanica . . . . . . . . | 22.00—23.50 |
| Jačmień na pansak . . . . | 17.50—19.00 |
| Avios . . . . . . . . . . . | 13.75—15.25 |
| Hračycha . . . . . . . . . | 17.00—17 50 |
| Muka pšaničnaja . . . . . . | 22.50—41.50 |
| Muka žytniaja da 50% . . . . | 25.25—25 75 |
| „ „ da 65% . . . . | 22.75—23 5 |
| Muka razovaja da 95% . . . | 17.75—18 25 |
| Votruby žytnija . . . . . . | 10.00—10 25 |
| Siemia lannoje b. 90% . . . . | 31.00—32 00 |
| Lon trapany, Vałožyna . . . . | 216.15—1 600 |
| Lon trapany, Miory . . . . . . | 216.50—1.300 |
| Lon česany, Harodziej . . . . | 303.10—1.970 |

**Małočnaje za 1 kilo (14.IX 36)**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 2.30—2.40 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.70 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 2.20—2.30 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.60 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie . . | 1 40—1.80 |
| „ „ „ „ u detalu . . | 1.70—2.20 |
| Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie | —2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.00 |
| Jajki, kapa . . . . . . . . . | 3 90—5.10 |
| „ za štuku . . . . . . | 7—9 hraš. |

**Miasnoje 11.IX.36.**

*Za kilo žyvoj vahi:*

| | | |
|---|---|---|
| **Bydła:** | stadniki . . . . . . . . | 0.30—0,42 |
| | karovy . . . . . . . . . | 0.28—0,40 |
| | cialaty II sort . . . . . | 0.60—0.70 |
| **Švini:** | . . . . . . . . . . . . | 0.65—0 80 |
| **Miasa:** | vałovina, całyja štuki . . | 0.60—0.70 |
| | vałovina, zady . . . . . | 0.80—0.98 |
| | vałovina, pierady (košar) . | 0 95—1.15 |
| | švinina . . . . . . . . | 1.00—1.12 |
| | baranina . . . . . . . . | 0.75—0 85 |
| **Skury syryja:** | bydlačyja za 1 kilo | 1.10—1.15 |
| | cialačyja za št. . . | 6.50—7.00 |
| | aviečyja . . . . . | 4.75—5.00 |
| | ščacina, niesart. . . . | 6.50—7.00 |



# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŪNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Vierasień 1936 h. | Nr. 9 (50). |
| --- | --- | --- |

*Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Kooperacyja pašyrajecca.** Zrazumieńnie patreby kooperacyi na biełaruskaj vioscy vielmi i biezpieraryvu ŭzrastaje. Dokazam hetaha jość choć-by toje, što za 1-aje paŭhodździe siol. adzin tolki sajuz spažyvieckich kooperatyvaŭ „Społem!“ vydaŭ dla Navahradčyny až 18 paśviedčańniaŭ. — Jak viedama, „novy“ kooperatyŭny zakon vymahaje, kab pierš čym rabić jakija-niebudź starańni ab adčynieńni novych kooperatyvaŭ, dastać paśviedčańnie ab „patrebie“ takoj kooperatyvy. Hetkija paśviedčańni vydaje Kooperatyŭnaja Rada pry Ministerstvie Skarbu ŭ Varšavie i zaćvierdžanyja hetaj Radaj kooperatyŭnyja revizyjnyja sajuzy. Na našych ziemlach takim sajuzam jość miž inš. sajuz „Społem!“

**Zakon ab pryhraničnaj pałasie i kooperatyvy.** (D. U. Nr. 55, poz. 397, 1936). Z dniom 18-ha lipnia ŭvajšoŭ u siłu polski zakon ab pryhraničnaj pałasie. Z uvahi na toje, što ŭsia paŭnočna-ŭschodniaja hranica Polščy, heta vioski biełaruskija, dyk uvieś ciažar hetaha novaha zakonu na hetym abšary padaje na žyćcio hetych-ža viosak i moža vielmi zavažyć na dalšym raźvićci kooperacyi tam-ža.

Pryhraničny pojas abyjmaje saboju prastor 30 klm ad hranicy ŭhłyb dziaržavy. Ŭklučajucca siudy i vioski tych pavietaŭ, jakija nie lažać biespasiaredna pry hranicy. Hety pojas moža tak-ža być pašyrany i dalej jak na 30 klm.

Na padstavie hetaha zakonu palicyja moža zabaranić žyć asobam u pryhraničnaj pałasie. Kazna moža siłaj vykupić niaruchomaści (npr. damy, ziamlu), jakija lažać u pryhraničnaj pałasie, a tak-ža zabaranić peŭnym asobam takija niaruchomaści nabyvać (akramia spadku), i arendavać, a tak-ža zajmacca ŭ hetaj pałasie handlem i promysłam. Ŭ tych-ža pradpryjemstvach, jakija isnujuć, palicyja dastaje prava zabaraniać pracavać asobam, jakich ŭvažaje niebiaśpiečnymi dla dziaržavy. Ŭreščie palicyja moža prypynić abo zabaranić dziejnaść na prastory pryhraničnaj pałasy kožnaj arhanizacyi, sajuzu ci kooperatyvy abo ich addziełu, kali pryznaje, što hetkaja dziejnaść nia jość pažadanaj z uvahi na publičnuju biaśpieku abo abaronu hranic.

Pastanovy vajavody, vydanyja na padstavie ust. 1., nie vymahajuć abasnavańnia i pavinny vykonvacca nieadkładna.

**RSŬK — u svajej sobskaj chacie. Vinšujem!** RSŬK — Revizyjny Sajuz Ŭkrainskich Kooperatyvaŭ — haloŭnaja arhanizacyjnaja i nahladnaja centrala ukrainskaj kooperacyi ŭ Polščy, kupiŭ dnia 12 žniŭnia siol. dom pry Technickaj vul. № 1 u Lvovie, kudy niezadoŭha buduć pieraniesieny ŭsie biura Sajuzu. Dom kaštuje 166 tysiač zł.

**Najstarejšaja kredytovaja kooperatyva była zasnavana ŭ Słavaččynie.** Dahetul ahulna ŭvažałasia, što najpieršaj kredytovaj kooperatyvaj była kooperatyva niemca Raiffeisena ŭ Flammersfeld, u Niamieččynie, załožanaja ŭ 1849 h. — Najnaviejšyja doślady ŭ hetym kirunku słavaka F. Houdeka dakazali, što ŭ słavackim miastečku Subociščy hetkaja kooperatyva isnavała ŭžo ŭ 1845 h. Zasnavaŭ jaje tam vučyciel S. Jurkovič (F. Houdek: „Počiatki československeho družstevnictva“).

**Nia možna padyjmać cenaŭ soli.** Novy zahad Ministerstva ŭnutranych spraŭ zabaraniaje pad stracham srohaj kary pradavać kuchonnuju sol u detalu daražej jak pa 32 hrašy za kilo.

**Pošta.** Pavodle navaha zahadu Ministerstva Pošt i Telehrafaŭ, pošta pavinna addavać pasyłki ŭ niadzielu i śviata.

**Palohki dla daŭžnikoŭ za melioracyju.** Ziamielny Bank (Bank Rolny) maje ŭ chutkim času vydać rasparadžeńnie ab palohkach dla tych, chto braŭ pazyčki na praviadzieńnie melioracyj. Palohki majuć iści ŭ dvuch kirunkach: častkovaha skasavańnia doŭhu naahuł i ŭstrymańnie ratalnaj spłaty pazyčak da dnia 30.VI. 1939 h. Ŭspomnienyja palohki Bank maje raskładać sam i da jaho nia treba zvaročvacca z nijakimi prośbami.

**Ahranamičny Addzieł** Vilenskaha Universytetu pačynaje novy školny hod. Zapisy studentaŭ na 1-šy hod pryjmajucca ad 21.IX. da 3.X.1936 h. u Kancelaryi Addziełu pry Universyteckaj vul. 3. — Pieršaje miesca pry zapisie majuć kandydaty z ziemlarobskaj praktykaj.

*Da hetaha numaru „Samapomačy“ dałučajucca razrachunkovyja pierakazy, katorymi prosim pierasłać nam nieadkładna padpisku na II paŭhodździe i vyraŭnać doŭh za paŭhodździe I-aje.*

# Сельская гаспадарка.

## Больш асьветы агульнай і — фаховай!

*(З нагоды 50-га нумару „Самапомачы").*

Радасьць бярэ, калі чуваць з усіх кутоў нашага Краю, як людзі нашы дружна дамагаюцца для сваіх дзяцей беларускай школы. Сум агартае, калі даходзяць весткі аб тым, з якімі труднасьцямі і ахвярамі зьвязана гэта дамаганьне, Урэшце, вера непераможная ў слушнасьць нашых дамаганьняў дадае сіл да дальшае працы ў гэтым кірунку, аж пакуль беларускае дзіця будзе магчы вучыцца так, як і дзеці ўсіх іншых народаў, у школе сваей роднай, г. зн. беларускай.

Гэта ясна. Але на гэтым не канец Найлепшыя і найхутчэйшыя рэзультаты пачатай школьнай акцыі ня ў сілах адразу здаволіць нашы народныя патрэбы ў галіне асьветы. Тымбольш, калі гэтыя рэзультаты так ружова зусім не прадстаўляюцца. У гэткіх варунках канешнасьцю ёсьць **асьвета пазашкольная** агульная і — **фаховая**.

Нічога ня дзеецца само праз сябе. І самаасьвета, калі мае абняць больш людзей і даць ім паважнейшую карысьць, павінна быць кіраванай **з аднаго супольнага месца**. Для сталай лучнасьці такога ўмоўнага цэнтру з кожным самаасьветным кружком і нават кожнай асобнай фізычнай адзінкай патрэбны асобны часапіс...

У самаасьвеце фаховай, у нашым выпадку — ў гаспадарча-земляробскай, гэткі часапіс выходзіць вось ужо 50-ты раз. Пяцьдзесят нумароў нашай „Самапомачы" за чатыры гады, гэта пяцьдзесят натугаў кінуць у нашу беларускую вёску думку гаспадарчага дабрабыту, апертага не на чыейсь помачы з-боку, але на выкрэсіваньні сіл з нутра самага народу. Цяжкая гэта праца, асабліва, калі побач насаджваюцца і ўтрымоўвуюцца чужыя пляцоўкі, ня гэтулькі гаспадарчыя, колькі конкурэнцыйныя, сыта падтрымліваныя з розных бакоў і гадуючыя прананьне якраз адваротнае — што ў гаспадарчым значэньні мы быццам заўсёды будзем змушаны на некага аглядацца.

Па 50-цёх нумарох можам аднак выказаць здаваленьне, што праца наша марнай ня была. Здаём сабе справу, што і гэта скромная праца магла-б быць далёка пладнейшай, калі-б было да працы больш адпаведна — прыгатаваных людзей. Выказываныя колькі раз некаторымі нашымі чытачамі і супрацоўнікамі пажаданьні, каб часапіс пашырыў свой разьмер, або часьцей — прынамсі што другі тыдзень —выходзіў,—дагэтуль, на жаль, не маглі быць выкананы: каб гэта правесьці ў жыцьцё,трэба каб часапіс у дагэтуляшнім фармаце быў самааплачальным. Датуль-жа, пакуль выдавецтва да кожнага нумару змушана даплачываць — няхай ніхто ня згоршыцца гэтым прызнаньнем! — датуль ня можна вымагаць зьмен у кірунку пашырэньня.

Але думаць аб пашырэньні трэба. Кожны да гэта павінен прылажыць руку: хто

---

**M. Rapacki:** (2)

## Haspadarčaja prahrama spažyvieckaj kooperacyi.

(Praciah, hl. „Samapomač" № 7—8).

Dalej, kali trymacca zasady, što adnej z pryčyn kryzysu jość nadmiernaja akumulacyja (nahramadžeńnie) ŭ rukach adnej častki nasielnictva kapitału, ci lepš — hramadzkaha dachodu, katory nia moža być spažytym, dyk musim ustanavić zasadu, što pakul heta forma pryvatna kapitalistyčnaj haspadarki isnuje, treba ŭstrymać heta hramadžeńnie kapitału panad ułasnyja, choć-by navat najbolš luksusovyja (zbytkoŭnyja — *tłum.*), patreby adzinki. Naturalna, mova tut ab adzincy fizyčnaj. Musim ustanavić sabie peŭnaje maximum (najbolšuju mieru) hramadzkaha dachodu, jakoje fizyčnaja adzinka maje prava asiahać. Heta maximum niachaj budzie vysokaje, niachaj abyjmie luksusovaje spažyćcio dadzienaje adzinki — nie hladžu z zajzdraściu na ludziej, katoryja majuć svaje sobskija villi (damy z harodčykami pad miestam — *tłum.*) i sobskija samachody, naadvarot, chacieŭ-by, kab ich było jaknajbolš, — ale toje, čaho adzinka, razam z siamjoj, nia moža spažyć, nie pivinna być jejnaj ułasnaściu. Dziela hetaha dziaržava pavinna skazać, što kali dachod adzinki pieravyžšaje heta maximum, dyk dziaržava nakładaje 100 prac. padatak z dachodu ad nadvyžki hetkaha dachodu.

Kali praviadziom hetkuju zasadu dla dachodu, dyk musim hetkuju-ž zasadu praviašci i dla majemaści. Treba ŭstalić, što dachod pry zvyčajnaj pracentnaj normie nia moža pieravyžšać toje maximum, ab jakim była mova pierš. Dziela hetaha i ŭ hetym vypadku ad majemaści panad peŭnaje vysokaje maximum treba było-b ustanavić peŭny 100 prac. padatak.

Heta ahulnyja pradpasyłki, kanieśnyja dziela naležnaha praviadzieńnia pierabudovy ładu. Ale dla asiahnieńnia mety treba daŭžejšych i hłybšych źmien. Kab hetyja źmieny byli mahčymyja, ich musiać papieradžać peŭnyja pryhatavańni, jakija ŭžo ciapier vykonvujuć

# А цяпер на сенажаці!

Цяжка заахвочваць да працы над управай сенажаці таго, хто ня можа справіцца як трэба з полем ворным. Але сягоньня якраз пара застанавіцца над тым, якія нашы сенажаці ёсьць і якімі яны быць павінны.

Хто дасьпеў да зразуменьня гэтай важнай справы ў гаспадарцы, той няхай з гэтага скарыстае, а хто скарыстаць чамусьці не захоча, той хай прынамся аб гэтым падумае і застановіцца.

Гаспадаркі ня можна сабе прадставіць бяз жывёлагадоўлі, а для жывёлы патрэбны корм, паша. Найнавейшыя досьледы над спажыўнаю вартасьцю сена выказалі, што яно можа быць так цэнным, як паша зернавая: авёс, ячмень і г. д. Натуральна, гэта ў такім выпадку, калі сенажаць добра ўтрымана, калі на ёй расьце цэнны мурог упарамежку з травамі канюшыннымі і калі гэты травастан быў кошаны прад цьветам і сабраны з поля пры сухой пагодзе.— Разгледзім гэтыя варункі папарадку:

Наўперад сенажаць гэта ня выган і нават ня пасьбішча. І адно і другое — выган і пасьбішча — убівае зямлю, нішча ейную ўраджайную будову, з гноем пасучайся жывёлы ўсяваецца ў сенажаць насеньне ўсякага пустазельля, якое заценьвае мурожныя травы. Дальшым грэхам не да дараваньня на нашых сенажацях ёсьць: **падмокласьць, курганы, кратовішчы, кусты** і ўспомненае ўжо **пустазельле.**

Як шкодна для сенажаці васеньняя, веснавая і наагул м о к р а я пасьба, аб гэтым ня прыходзіцца гаварыць, а проста з гэтым трэба перастаць. На частую балоцістасьць нашых сенажацяў — як і палёў — лек можа быць адзін пракапаць у вольны васеньні час адзін-другі роў (калі няма за што, палажыць дрэнажныя трубкі) — аплаціцца. Тутжа трэба зазначыць, што пакуль сенажаць забалочана надбыткам вады, датуль ніякія іншыя спосабы не памогуць. Ніякія.

Кратовішчы й курганы, што з іх паўстаюць на сенажацях, цяпер увосені час пазразаць лапатай і гладка разграбіць. Кусты і карчы цяпер трэба выцерабіць, мох выбаранаваць вострай жалезнай бараной і такімі ж граблямі і, калі ня можна ўсяго гэтага скомпоставаць, дык трэба ўзяць ды спаліць, а попел рассеяць кругом па тэй-жа сенажаці.

Асобнае месца ва ўсім гэтым ачышчаньні сенажаці займае змаганьне з пустазельлем, якое разросшыся зусім выпірае травы мурожныя, зводзячы значэньне сенажаці да рассадніка пустазельля. Каб зразумець

---

можа — супрацоўніцтвам у рэдакцыі, прысылаючы свае увагі ці апісваючы свой спосаб гаспадаркі; хто чытаньнем часапісу ў адзіночку і асабліва ў гуртку людзей знаёмых, хто праводзячы ў гаспадарцы рады апісаныя ў часапісе, урэшце—рабіць гэта можа і мусіць кожны! — зьбіраньнем падпіскі на адзіночныя нумары і асабліва на выгодныя **дзесяткі** — Усё гэта рэчы магчымыя і вельмі, вельмі патрэбныя. Сама рэдакцыя ўсей гэтай работы выканаць ня можа. Да гэтага патрэбна супрацоўніцтва ўсіх чытачоў. А як гэта станецца, тады й часапіс пабольшыцца, бо старая гэта праўда, што **часапіс заўсяды бывае такім, на які заслугоўваюць ягоныя чытачы.**

Дык, чытачы „Самапомачы!" У сваім собскім інтарэсе, у інтарэсе чэсьці, усе да супрацоўніцтва, а праз гэта і **да фаховай земляробскай асьветы!**

---

kooperatyvy pry padziele hramadzkaha dachodu i katoryja pierad usim tvorać ci pavialičvajuć hramadzki dachod. Bo ŭ adnym majuć słušnaść kapitalistyčnyja ekanamisty — što ŭ hetu chvilinu niama za što raźbivać hałovy, to dziakujučy sučasnaj haspadarčaj struktury (jany hetaha, peŭna-ž, nia kažuć) dajšli my da katastrafalnaha źmianšeńnia hramadzkaha dachodu. Viedajem, kolki fabryk nie pracuje, kolki jošć biezrabotnych. Dziela hetaha dachod hramadzki na hałavu nasielnictva źmienšyŭsia, a kali-b my tak išli dalej, dyk stała ŭzrastajučaja nendza šyrokich mas jašče bolš by jaho źmianšała ŭdoł až da nula. Z hetaje pryčyny pieršym zadańniem hetak zrazumienaj haspadarčaj palityki musić być — časta dyskredytavanaje — nakručvańnie końjunktury, kab ruchnuć z miesca. Jak heta moža nastać? Majem pieradusim šmat biezrabotnych. Musim heta biezraboćcie źlikvidavać. Majem nieapłačalnaść ziemlarobskich haspadarak, jakija prakormlivajuć u nas (u Polšču — *tłum.*) 65—70 prac. nasielnictva kraju. Musim hetu nieapłatnaść, a lepš nievystarčalnuju apłatu pracy sielanina ŭ svajej haspadarcy napravić.

Jak da hetaha dajšci? Heta pytańnie błukałasia na niadaŭna sklikanaj uradam haspadarčaj naradzie, dzie pierakidali jaje, byccam miačyk, z boku abšarnickaha ziemlarobstva da vialikaha promysłu. Na heta pytańnie my, kooperatary, musim dać adkaz. — Z katoraha boku maje pačacca naprava — ad rabotnika ci ad ziemlaroba?

Musim da hetaj spravy prystupić biaz nijakich upiaredžańniaŭ i razvažyć jaje biezstaronna.

Na ŭspomnienaj haspadarčaj naradzie, Lewjatan (sajuz vialikaha promysłu ŭ Polšču — *tłum.*) kazaŭ, što paprava pavinna nastupić z boku promysłu, a abšarniki ŭvažali, što z boku ziemlarobstva. Lewjatan kazaŭ: kab papravić varunki promysłu, treba zbolšyć apłatnaść pramysłovych varstataŭ... padyjmajučy ceny pramysłovych praduktaŭ i abnižajučy płatu rabotnikam. Biezsensoŭnaść hetkaha receptu až bje ŭ vočy. Pa pieršaje, košty pracy ŭ pramysłovaj pradukcyi adyhryvajuć štoraz mienšuju rol, jany ŭ Polšču napr. vynosiać usiaho

шкоднасьць гэткай зьмены на сенажаці, трэба ведаць, што **ня ўсё зялёнае ёсьць пашай.** Пустазельле дзеля гэтага трэба нішчыць усякімі спосабамі, перад усім-жа палоць і выпаліваць такімі штучнымі гнаямі, як каініт і азатняк.

Поліва сенажаці—рэч марудная, але канешная. Палоць трэба ўвосені, вясной і ня толькі адзін раз, але штогод і стала. Работа гэта дзяцей, якім трэба даць у рукі кіёк з насаджаным нажом, вузкую матыку ці нешта падобнае, і навучыць, каб старанна вырэзывалі з зямлі ўсякае каліва пустазельля, якое цяпер даволі ясна аддзяляецца ад травы мурожнай: падчас калі мурожная трава ў гэту пару ўжо пажаўцела і нават пачарнела, пустазельле творыць цяпер пры зямлі сьвежа-зеляне ючыя, больш ці менш шырокалістыя разложыстыя розэткі (букецікі). Іх трэба вырэзываць, зьбіраць і — найлепш — паліць. Паўтараем, гэта работа не аднаразовая і нават не аднагодняя: яе трэба паўтараць штогод, стала.

Другім спосабам нішчэньня пустазельля ёсьць выпаліваньне высейваным каінітам ці азотняком (на гэктар каля 600 клг. каініту і 150 клг. азотняку). Выгода тут тая, што гэтыя гнаі пустазельле паляць, а мурожныя травы гнояць і ўзмацняюць.

Усё гэта рабіць трэба ўвосені, пакуль суха, каб да вясны зарасьлі ўсе праталіны па зрэзаных курганох, выкарчаваных кустох, па выполаным пустазельлі. Гэтак прыгатаваную сенажаць трэба разбаранаваць і пагнаіць яшчэ кампостам, рэшткі якога зьбіраюцца рана вясной.

Калі няма пад рукой кампосту, дык па тыдні якім пасьля рассеенага каініту і азотняку можна даць на гэктар 300 клг. томасшляку. Аплаціцца. **С. Я—віч.**

## Вада як лек жывёлы.

Вадою ўжо здаўна лячылі й лечаць розныя хваробы, а ў людзей — нават нэрвовыя й псыхічныя (варыяцтва). Таксама й жывёле вада памагае ў розных вонкавых і нутраных хваробах, а ў хваробах конскіх ног гэта многастаронны, проста неабходны лек. Вадой у форме купаньня (плываньня), паліваньня, перапалосківаньня, параньня, лечымо жывёлу ў недастатку пад рукой якіх-небудзь іншых лекаў.

Часта ўводзім каня ў бягучую ваду, ставячы яго проці гону. Гэта памагае ў розных хваробах ног; у перамучаньні або й запаленьні мязіва (мускулаў), сухажыльля, суставаў, пухліны, запаленьню касьцяной маткі (накосьніцы). Вада не дапускае да тварэньня накасьнякоў (шпату і касьцяных кругоў) і перарывае іхні рост у самым пачатку. Купаньне ў вадзе памагае таксама і на хваробы складныя, як: вываліваньне адходнай (надворнай) кішкі, пухліна пад брухам, набракненьне прыпрутня пакладанага каня, запаленьне вым'я; далей, памагае ад пакусаньня пчоламі, чмялямі, зьмеямі. Нават доўгае гніцьцё можна вылечыць купаньнем, бо чыстая, быстрая вада ёсьць лекам. Яна пранікае ў найдальшыя закуткі хворай ткані, выганяе зусюль усе ропныя набегі і то хутчэй, чымся гэта можна было-б зрабіць пры помачы шпрынцоўкі. А далей, вада аблягчае гаеньне ран, бо ў ёй знаходзіцца тлён, які забівае заразьнікаў, што выклікаюць гніцьцё. Хутка бягучая вада расьцірае сама сабою хворую ткань, быццам далікатным расьціраньнем рукой, — што называецца дрыжачым (вібрацыйныммасажам. Сьцюдзёная вада ў форме паліваньня (ірыгацыі) вым'я ратуе карову ад пасьля)

---

2—20 prac., zaležna ad charaktaru pradukcyi, ad taho, ci ŭ joj bolš ci mienš zastasoŭvajecca mašyna. — Ale isnuje jšče druhaja starana. Kali abnižym płatu rabotnikam, a padvyžšym ceny, dyk chto budzie kuplać hetyja pradukty? Nia buduć ich kuplać rabotniki, bo im abnižany zarabotki, i nia buduć kuplać sialanie. bo pry abnižanych dachodach nasielnictva haradoŭ budzie mienš kuplać ziemlarobskija pradukty. A jak nastupić abniženie konsumcyi (spažyćcia), dyk nastupić i abniženie cenaŭ na ziemlarobskija pradukty, a heta pahłybić kryzys jašče bolš. Chto-ž tady budzie kuplać pramysłovyja pradukty?..

Abšarniki vysunuli inšuju tezu: padniaćcia apłatnaści ziemlarobskich varstataŭ. Jakimi darohami? Padvyškaj cenaŭ na ziemlarobskija pradukty — vielmi słušna... Ale jak padvyšyć ceny? Havorycca ab vyvoznych premijach, ab uspamahanym dziaržavaj eksporcie ziemlarobskich praduktaŭ. Možna było-b heta j sprabavać... Ale viedajem, što inšyja dziaržavy... patrapiać zamknucca pry pomačy vysokaha cła, a navat zabarony pryvozu. Što z hetaha vyjdzie? Nijakija premii, nijakija ŭspamahańni pry zamykajučymsia ciapier eksporcie nie daduć karyści. Ziemlarobstva moža i musić rachavać tolki na rynak nutrany. Pry rost nasielnictva i ŭzrost spažyćcia hetaha nasielnictva dašć popyt i ceny na ziemlarobskija pradukty. I tamu ziemlarobstva, kali choča znajšci bolšy popyt, musić samo skazać: treba pavialičyć pieradusim zapatrebavańnie horadu, šyrokich masaŭ haradzkoha nasielnictva na pradukty ziemlarobstva. Kab heta zrabić, treba pavialičyć dachody miestavaha (haradzkoha) nasielnictva, pieradusim treba pavialičyć učaście ŭ hramadzkim dachodzie šyrokich mas. I heta jość fakt pieršaradnaj vahi..

.. Pry daśledavańniach padziełu hramadzkaha dachodu rabotnickaj siamji ŭ Polšče, byŭ zrobleny padzieł na čatyry hrupy. Navat pry dobraj końjunktury pierachod ad pieršaj, najhorš płatnaj katehoryi rabotnikaŭ (pad 600 zł. u hod) da najvyšejšaj (vyšej 1200 zł.) pavialičvaje vydatki na spažyćcio hetaj siamji ŭ małace na 156 prac., miasie — na 120 prac.; nia majem dadzienych adnosna jajok, ale praŭda-

радовага паралiжу. Гэткiм палiваньнем левай пахвiны ратуем таксама жывёлу ад надуцьця. Пры плываньню спаласкiвае сабою пот, бруд з жывёлы i адчыняе ў скуры поры, праз каторыя дастаецца ў кроў тлён, якi яе адсьвежвае i ажыўляе. Аднак уводзiць у ваду трэба асьцярожна й павольна, каб замест памагчы не пашкодзiць, ня выклiкаць прастуды, запаленьня лёгкiх, ахвачэньня. Ня можна ўводзiць у ваду жарабцоў пасьля выпакладаньня, бо такая рана лёгка заражаецца грыбком — ботрымiкозам... Кастратам (рэзаным) трэба толькi перапаласкiваць рану 3% вадзяным растворам крэолiну.

Да перамываньня такiх ран i да шпрынцаваньня (напр. маткi) трэба ўжываць толькi пераваранаую ваду, бо ў такой вадзе няма нiякiх заразкаў, якiя спрычынiлi-б гнiцьцё.

Гэткiя выпаласкiваньнi заразкаў, як i наножныя купелi, стасуем таксама пры розных крывавых зраненьнях, гнiцьцi або зраненьнi капыта, пры падбiцьцi пятак, пры зраненьнi капытнай стрэлкi, нарушэньнi каронкi, мясной сьценкi або i падэшвы капыта, пры гнiцьцi ад закаваньня, пры адмаражэньнi ног, пры грудзе, усякiх зраненьнях—пры чым раствор крэолiны прыгатаўляем часта ў вывары шалвею цi дубовай кары. Перавязку (бандаж) накладаем, каб не дапусьцiць да заражэньня раны з гною цi йнакшым спосабам.

З iншых вадалячэбных захадаў трэба сказаць аб г. зв. кампрэсах. Кампрэсы бываюць розныя: студзячыя, саграваючыя (ўласьцiвыя кампрэсы), ды высыхаючыя (прышнiц).

**Студзячыя** або проста сьцюдзёныя кампрэсы прыгатаўляюцца з чыстай сьцюдзёнай вады, да якой, каб яе даўжэй утрымаць сьцюдзёнай, дадаецца соль або тоўчаны лёд. Яшчэ лепш дадаць да такой вады водкi, або галуну, або алавянага цукру (plumbum aceticum). Хопе 1 лыжка на кварту сьцюдзёнай вады. Робяцца так: намачыць у сьцюдзёнай вадзе стары вымыты мяшок або старую зрэбнiну i прылажыць на балючае месца, зьмяняючы даволi часта. Замест гэтага вымешываюць глiну, заквашанаю вадою i абкладаюць гэтым хворае месца, напр. ахвачаны капыт. Сьцюдзёныя кампрэсы памагаюць пры запаленьнi сухажыльля, гарачых набракненьнях на нагах, пры зьбiцьцi, ахваце, апараньнi (з дадаткам галуну), запаленьнi лёгкiх. У гэтым апошнiм выпадку добра, калi выкручаную з вады посьцелку скрапiць водкай. Замест вады можна ўжыць тоўчанага лёду ў высушаным мачавым пузыры або ў плоскай бутэльцы. Гэткiм спосабам можна трымаць холад на балючым месцы даўжэй i не перарываць. Гэта памагае пры запаленьнi мазгоў, пры ахваце i пры забоях.

**Саграваючыя кампрэсы.** Iнакш называюць iх вогкасаграваючымi, а калi пакiдаем iх аж пакуль ня высахнуць, дык высыхаючымi (прышнiц). Саграваючыя кампрэсы робяцца таксама як i сьцюдзёныя, толькi па намачэньнi зрэбнiны ў сьцюдзёнай вадзе i выкручаньнi да суха, накладаюць на хворае месца ды йшчэ абвязваюць зьверху сухой шматай (мяшком) або цыратай. Трымаць трэба такi кампрэс праз 3—6 гадзiн, або даць яго на цэлую ноч. Саграваючыя кампрэсы памагаюць пры застарэлых (сьцюдзёных) набракненьнях скамяненьню вым'я або падгруднiны, зап.залозаў,пры зап.гарлянкi,застарэлых згрубеньнях сухажыльля, накостных наростах i iнш.

(„*Сiль. Госп.*") **Др. М. Ст.**

(д. б.)

padobna adnosiny buduć tyja samyja. A značа spažyćcio pavialičvajecca ŭ dva z pałovaj razy i to ŭ jakich artykułach?!—u takich, jakija pradukuje drobny ziemlarob, nie abšarnik, jaki kidaje na rynak pierad usim zbožža... Dziela hetaha, kali pavialičycca zbyt artykułaŭ ziemlarobskich, dyk musiać padniacca i ceny. Tamu, pavodle majoj dumki, papravu treba pačynać z hetaha boku.

Dziela hetaha ŭ tezach vykazvajusia:

a) za padvyšku zarabotnaj płaty ŭradavym i samaŭradavym pracaŭnikom;

b) za ŭstanaŭleńniem najmienšaj zarabotnaj płaty (minimum) dla rabotnikaŭ fizyčnych i razumovych, vyšejšaj ad normy sučasnaj.

...U hetkich varunkach padyjmiecca spažyćcio ziemlarobskich praduktaŭ, a praz heta i spažyćcio praduktaŭ pramysłovych.

Kab źmienšyć biezraboćcie rabotnikaŭ najemnych, treba:

a) zakonam skaracić pracoŭny dzień na 36 da 40 hadzin u tydzień;

b) zavieści prymusovyja emerytury na staraść dla pracaŭnikoŭ fizyčnych pa 50—55 hadoch vieku, dla razumovych — pa 55—60 hadoch;

c) surova zabaranić pracu dziaciej i ahraničyć pracu žančyn;

d) viaści raboty publičnyja..

Hetak vyhladaje sprava z boku rabotnikaŭ. Ale naša prahrama pavinna tak-ža mieć na ŭvazie intaresy nasielnictva ziemlarobskaha. Kab źmienšyć schavanaje biezraboćcie ŭ ziemlarobstvie, treba:

a) chutka i radykalna pravieści ziamielnuju reformu;

b) pakinuć dvornaj słužbie, sarhanizavanaj u kooperatyŭnyja ziamielnyja arcieli, asiarodki što astanucca pa parcelacyi;

c) parcelavać adpaviednyja kazionnyja abšary;

d) vieści publičnyja raboty na abšarach viaskovych.

Kali voźmiem cyfry, dyk pierakanajemsia, što ŭ Polščy majem niačuvanaje pieranasialeńnie vioski, a pieradusim pieranasialeńnie ŭ adnosinach da ŭładanaj ziamli.

# Перахоўваньне гародніны на зіму.

На зіму выбіраюць якнайлепшую гародніну Каб гародніна добра перахоўвалася, павінна яна быць зусім сьпелая, бо толькі такая ня губляе смаку і ня псуецца.

Карэньневую гародніну, як салеру, моркву, пятрушку, пору, буракі і т. п. ня трэба выбіраць з зямлі аж да па атку лістапада, бо-ж яны у самую восень набываюць на смаку і тугасьці.

У добра зробленых ямах гародніна перахоўвуецца найдаўжэй, захоўвуе свой сьвежы смак і запах. Але такія ямы маюць тую загану, што калі ўзімку трэба гародніну з такіх ям выбіраць, дык часта яна вымярзае.

Хто мае гародніны ня многа, той найлепш зробе, калі на зіму захавае яе ў склеп, калі ён да гэтага надаецца, а іменна, калі не загарачы і мае добрую вэнтыляцыю. Цераэмерная цяпліня для гародніны шкодзіць. Яна не дае ей спакойна адпачываць, але пабуджае да росту, выганяе лісткі, наросты і становіцца нядзатнай да ўжытку.

Добры склеп павінен быць халодны. Калі тэмпэратура перавышае 5⁰Ц, тады трэба яго праветрыць. Падлога найлепшая ня мошчаная, але добра выбітая сырой зямлёй; тады ў склепе заўсяды ў меру сыра і сьвежа. Уся карэньневая гародніна, пераховываецца у зямлі ўзятай з гароду, або ў вогкім пяску. Грубіня слою зямлі звычайна бывае 30—40 см. Зямля, або пясок павінны быць трохі і раўнамерна вогкія, сыраватыя, дзеля гэтага, калі падлога высыпана пяском, тады трба спырсківаюць яе трохі вадой; калі-ж высыпана зямлёй, тады спырсківаць ня трэба, бо тады плесьнее.

Каб зрабіць склеп для гародніны паза гаспад. будынкамі, трэба выбраць месца непрамакаючае і сухое. У ім выкапаць роў на $2^1/_2$ м. шырыні, на $1-1^1/_2$ м. глыбіні і адпаведна да колькасьці гародніны даўгі.—Сьцены гэткага рову абкладаюцца чым-небудзь. Да гэтага можа служыць цэгла, каменьне або дошкі. Гэта забясьпечвае такі склепік ад мышэй і ад асыпаньня зямлі. Пасьля прыкрываюць тую яму рыштаваньнем (памостам), даючы пад дах дошкі, або дылі, трысьнік, або папу і прысыпаюць зямлёй.

У страсе можна зрабіць адно ці больш вакон, каб у сярэдзіну даходзіла сьвятло. Іх прыкрываюць матамі, або дошкамі. Дзьверы павінны быць зьвернуты да паўдня, забясьпечаныя ад марозу, а над імі маленькае ваконца для вэнтыляцыі. Склепік дзеляць на два разьдзелы, па 1 м., пакідаючы для праходу(калідор) на поўмэтра. Калі матар'ял, з якога зроблены склепік, ёсьць добры і сам склеп добра збудаваны, то можа ён праслужыць колькі гадоў.

Перахоўваць гародніну можна так жа і ў ямах проста, без страхі У гэтым выпадку трэба выбраць у гародзе месца сухое, выкапаць роў ня шырокі, а больш глыбокі (бо ў шырокім скарэй гародніна мерзьне) злажыць у яго гародніну, абсыпаючы пяском, пасьля прыкрыць саламянымі матамі, на іх налажыць салому, трысьняку, лісьця, гальля і т. п, а пасьля прысыпаць зямлёй.

Калі грунт ёсьць прамакаючы, тады замест ямы можна рабіць на версе з дошчак быццам скрыню,якую пасьля з усіх бакоў аб-

---

U Polščy na 100 ha h. zv. užytkovych majem 45.5 ludziej z ha pry ŭradžaju 11 q, u Francyi — 25 ludziej, pry ŭradžaju 14 q, u Italii— 44 ludziej, pry ŭradžaju 15 q, u Niamieččynie — 34.2 ludziej, pry ŭradžaju 19 q.

Bačym zhetul, što nahramadžeńnie ziemlarobskaha nasielnictva fachovaha, pracujučaha na v.oscy, jošć niačuvana vialikim. Treba heta nahramadžeńnie źmienšyć. Tut patrebna pierad usim parcelacyja bolšych kazionnych abšaŭ (a što z majontkami pryvatnymi? — *Drukar.*), katoryja ŭ hetu paru lažać adłoham. Adnak pry praviadzieńni ziamielnaj reformy, treba pamiatać ab dvornaj službie... Dalej, u ziemlarobstvie patrebna jšče adno — kab nadvyžka, jakaja pry zbolšanym popycie paŭstanie z padniaćcia cen, pajšla całkom u kišeni ziemlarobaŭ. Dziela hetaha važnym jošć zadańniem naležnaje sarhanizavańnie kooperacyi spažyvieckaj i ziemlarobska-handlovaj, kab źmienšyć koŝty pasiarednictva ..

Dziela acharony i planovaj razbudovy hetak zrazumiełaj hramadzkaj haspadarki, treba skasavać usie isnujučyja karteli i zabaranić arhanizavańnie novych. Bo karteli štučna pad vyšajuć ceny tavaru i hetym samym nie paz valajuć dalej raźvivacca pradukcyi, źmianšaju čy hramadzki dachod i pahłyblajučy kryzys..

Treba ŭziać u ruki całaść vyvazu i ŭvozu. Dziela hetaha treba było-b uvieści manapol zahraničnaha handlu, addajučy jaho ŭ ruki hramadzkaha miašanaha pradpryjemstva, pad nahladam dziaržavy. Heta instytucyja budzie mahčy poŭnaściu stasavać zasadu tavarnaj kompensacyi i tady prapadzie dziki vyvaz.

Ureščie dalej treba stasavać naležnuju publičnuju kantrolu cenaŭ na važniejšyja pramysłovyja pradukty. Toje, što ciapier robim z cenami na vuhal, cukar, naftu treba pašyryć. Pakul nie praviadziom pierabudovy, ab jakoj havaryłasia pierš, datul budziem musieć hetak rehulavać haspadarčaje žyćcio, kab nie papsula nam našaha planu pierabudovy.

(*Kančatak budzie*).



сыпаюць зямлёй, такім самым способам, як апісана вышэй.

У такіх ямах пераховываную гародніну трэба ў цёплы пагодны дзень праветрываць. Да гэтага можа служыць з дошчак зроблены комін, які падчас сільных маразоў замыкаюць.

## Перахаваньне паасобных сартоў гародніны.

**Морхву** выкопываюць з зямлі звычайна ў канцы кастрычніка, асьцярожна, каб не пакалечыць самай морхвы, адрываюць мархоўнік. Пасьля слаямі кладуць у пясок і прысыпаюць зямлёй, або ў звычайным склепе, або ў яме. Пасееная ў ліпні морхва, т. зв. „каротка," патрабуе йшчэ дасьпяваць, бо вырваная за рана яна затраціла-б увесь смак. Дзеля таго пакідаюць яе даўжэй на градзе, а каб ня прымерзла, прыкрываюць яе саломай.

**Пятрушку** пакідаюць часта зімаваць на градзе, але прыкрытая часта вымярзае. Дзеля таго лепш яе перахоўваць кучкамі ў скляпох ці ямах і пакідаючы дробнае лісьцё неадарваным. Бывае, што мышы яе зімой надпсовываюць.

**Чорнае карэньне** зазвычай перахоўваюць у ямах, бо ў склепе яму загорача Пакідаюць яго таксама на зіму і ў зямлі, бо яно вытрывалае на маразы. Пры выкопываньні трэба быць асьцярожным, каб не пакалечыць, бо тады траце шпараговы смак.

**Салеру** перахоўваюць у ямах, або скляпох. У абодвух выпадках складаюць яе у кучкі падобна як пятрушку, карэньнямі ў сярэдзіну, пры чым лісьцё прачышчаюць, а карэньне падразаюць.

**Буракі цукровыя** выкопываюць вельмі асьцярожна, бо іначай пры варэньні не дадуць чырвонага колеру. Лісьцё адразаецца на 4—5 см. а корань складаецца ў кучкі прысыпаныя пяском. Перахоўваць іх таксама можна ў ямах, або ў капцох на гародзе.

**Пору** перахоўваць можна на зіму на градзе, прыкрываючы саломай, лістамі і т.п., або ў склепе, засыпаючы пяском. Лісьцё і карэньне адрэзваецца.

**Белую і чырвоную капусту** выкопываюць з каранём, лісьцё толькі трохі абразаюць і кладуць у пясок карэньнем угару. Перахоўваюць яе на зіму або ў раўчуках глыбокіх на 40 см., а ў маразы прыкрываюць лісьцём і саломай, або ў склепе. Тады кладуць яе на дошкі, або прысыпаюць пяском. Пры перахоўваньні галоўная рэч, каб зьбіраць з поля ў сухую пагоду, бо йначай выгніе.

**Каляфіёры** перахоўваць на зіму цяжка, асабліва, калі пад восень ня можна забясьпечыць ад дожджу. На кароткі час можна яе пераховываць зрэзанаю ад качана і разложаную ў склепе на жэрдках. На даўжэйшы час перахоўваюць іх выкапаныя з карэньнем і так як ёсьць вешаюць карэньнямі ўгару. Праз нейкі час яны павянуць, але адсьвяжаюцца, калі на некалькі гадзін палажыць іх у зімную ваду. Таксама кладуць каляфіёры і ў склеп, прыкрываючы прыгнутымі лістамі. Часам бывае, што каляфіоры на градзе не пасьпеюць добра разьвіцца і завязацца. Тады выкопываюць іх з карэньнем, перасаджываюць у інспэкты, накрываюць шыбамі і забясьпечываюць ад марозу. Пасьля яны там разаўюцца, дасьпяваюць і даюць добрыя плады, якія зімой можна прадаваць па досьць добрых цэнах.

**Калярэпу** выграбаюць з карэньнямі, пакідаюць па некалькі малодзенькіх лісткоў і складаюць у ямы, або скляпы. Для пераховываньня найлепей надаецца маладая калярэпа, пасееная ў ліпні Яна заховывае добры смак і пераховываць яе можна аж да сакавіка.

**Бруксэльская капуста** можа зімаваць і на градах, але яе забясьпечываюць ад марозу саломай, лістамі, або торфам. Таксама кладуць яе у скрынях і абсыпаюць на зіму зямлёй.

**Салата** пасееная ў ліпні вырастае пад восень у прыгожыя галоўкі. Каб яна ня вымерзла, перасаджваюць яе разам з зямлёю ў рассаднік, прыкрываюць вокнамі і забясьпечываюць перад маразам. Калі яе сабраць сухую і забясьпечыць перад маразам, дык можна яе ўжываць праз цэлую зіму.

**Цыбулю** для перахаваньня выбіраюць з градаў у пагодны сонешны дзень, калі лісьцё (пёры) яе зусім павянуць, перасушываюць нейкі час у такім месцы, дзе-б не даходзіў мароз і гдзе-б было правеўна і суха. Каб пад канец зімы яна ня выпускала лістоў, скручываюць туга яе ліставую шыйку. Цыбулю дымку перахоўваюць у правеўных мяшочках у цёплым ды правеўным месцы. Таксама плятуць цыбулю і часнок у вянкі і вешаюць у каморы.

## Як абходзіцца з гароднінай падчас зімы?

Мала зложыць гародніну на зіму, а пасьля не апекавацца ёю. Калі падыходзяць вялікія маразы, а гародніна ёсьць у яме ці ў капцох на двары, тады трэба яе лепш прыкрыць саломай, ці лістамі, і зямлёй. Калі-ж гародніна ў склепе — прыкрыць люхты, а вокны закрыць матамі.

Аднак-жа і накрыцьцё ў ямах на гародзе павінна быць умела праведзена. Спачатку прыкрыць трысьнікам, бульбоўнікам, або бабоўнікам, каб гародніна мела досыць паветра і магла дыхаць, а пасьля даць слой пацёртай саломы, і ўрэшце прыкрыць зямлёй. У пагоднія і сонечныя дні трэба гародніну праветрываць і ачышчаць ад гнілых часьцей. Так у ямах як і ў скляпох павінен панаваць лад і парадак. Гародніна дагледжаная зімой ёсьць нішто іншае, як зімовы гарод. Пры выбіраньні гародніны для дамовага ўжытку ня можна яе раськідываць без

PČALARSTVA

# Paśla łaźbinaŭ.

(*Kančatak*).

## 3. Zimovyja pčalinyja hniozdy.

U pryrodnym („dzikim") žyćci pčoł, jany sami pravilna składajuć sabie hniazdo na zimu. Nia mohuć adnak zrabić hetaha pčoły tam, dzie ŭ ichniuju haspadarku ŭmiašaŭsia čałaviek (bortnik); jon praz leta časta ŭvodziŭ u vulli svaje „paradki": adny ramki vyjmaŭ, druhija ŭstaŭlaŭ, zamianiaŭ, zabiraŭ nadstaŭki i h. d. Kali hetak „haspadaračy" ŭ vulli čałaviek „zabyvaŭsia" ab tym, jak pčalina budzie žyć praz zimu, dyk takoj pčalinie pahražaje śmierć z hoładu. Tymbolš, što pčała maje takuju naturu, što moža admierci z hoładu navat tady, kali ŭ vulli budzie poŭna miodu. Dziela hetaha kožny ŭłaśnik pčoł musić prad nastańniem zimy pakłapacicca ab tym, kab złažyć svaim pčołam pravilnaje hniazdo. A dziela hetaha jon musić znać pčalinuju „naturu", toj asabliva jejny mament, što pčała, šukajučy zimoj u vulli miodu, padyjmajecca tolki ŭvierch i ŭbok, **ale nikoli nie apuskajecca ŭdoł.** Heta i treba pierad usim mieć na ŭvazie składajučy pčołam zimovaje hniazdo. Ale heta nia ŭsio.

Ramki stajačyja suproć lotki letam byvajuć blizu całkom zaniaty čeram. Čym dalej ad lotki, tym mienš byvaje čeru. U čas miodazboru hetyja dalšyja ramki chutčej zalivajucca miodam. Na siarednich ramkach matka dalej červić i tut čer jość až da poznaj vosieni. Na hetych-ža siarednich ramkach i źbirajucca pčoły ŭ zimavy kłubok. Na miodzie jany nikoli nie siadajuć, bo jon zimniejšy. Najbolš pčoł siadaje na 2—3 siarednich ramkach. Zimoj, u mieru źjadańnia zapasu miodu, pčaliny kłubok pasoŭvajecca za miodam u v i e r c h, až da paduški (ŭ ramovym vulli), a paśla pavinien iści kudy-niebudź pa šyryni hniazda i ramak. I tut niebiaśpieka: kali pčaliny kłubok napatkaje ŭ svajej pahoni za miodam na pustoje ad miodu miesca, dyk — u marozny čas — jon niazdolny praz jaho prabracca i hinie hałodnaj śmierciu.

Z hetaha jasna, što dla zimoŭli pčoł važna nia tolki, kab było ŭ vulli dosyć miodu, ale treba hladzieć, kab miod hety byŭ i adpaviedna raźmieščany; heta znača tak, kab pry ŭsiakim ruchu (uvierch, ubok), na jaki pčalina zdolnaja, kab znachodziła dosyć spažyvy (miodu). Roznyja vulli majuć roznyja formy ramak. Zapasy miodu ŭ najbolš u nas pašyranym vulli Dadant-Blata pavinny ŭ papiarečnym razrezie vyhladać bolš mienš hetak:




**Papiarečny razrez zimovaha hniazda.**

*U hniaździe 7 ramak z 16 (3.0+2.5+1.7+1.5+1.8+2.5+3.0) klhr. miodu. Čornyja miascy ramki — heta miod, a źvisajučyja pad imi liniejki — heta čer.*

Ahułam pry sastaŭlańni zimovaha hniazda treba kiravacca hetkimi pravilami:

a) Na zimu najlepš pakidać hetulki ramak, kolki zajmaje kłubok pčoł, plus 2 ramki pa krajoch. Pry mienšym hniaździe pčołam budzie ciaplej, i dziela taho jany źjaduć mienš kormu, i buduć zdaraviejšyja. Viasnoju tak-ža budzie ciaplej i matka raniej pačnie čarvić.

b) Treba sačyć za tym, kab u hniaździe nia było pustych zusim ramak, abo pustych z adnaho boku. Ramka takaja budzie pieraharodkaj dla vandroŭki pčalinaha kłubka i z henaje pryčyny zhinuć z hoładu, choć za pieraharodkaj budzie śmatliki zapas miodu. Nia

---

парадку, але трэба браць папарадку, па чарзе. Калі пясок у склепе сухі, то трэба яго зрошываць вадой. Адпадкаў з прачышчаной гародніны ня можна пакідаць хоць гдзе, бо гэта занячышчывае паветра і кідаецца на гародніну гніль ды іншыя хваробы. Ад гэтага паветра становіцца задушлівым, гародніна прэе і траціць смак. Таксама ў гэтым самым мейсцы ня трэба трымаць усякай усячыны, як карасіну, каламазь, агуркі, кіслую капусту, бульбу, яблыкі ці іншыя фрукты, або што небудзь іншае, што мае ўласьцівы запах. Трэба помніць так-жа, каб перад пераходваньнем на зіму гародніны, склеп быў добра вычышчаны, вымецены, высыпаны сухім пяском, ці зямлёй, вычышчаны ад павуціньня і пылу, выбелены і серкай высеркаваны. Гэта ня ёсьць вялікі кошт, а для расьліны мае, калі можна так сказаць, гігіенічнае значэньне. З здаровай-жа гародніны можа быць і здаровыя страва.

О. В.

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

možna tak-ža stavić u siaredzinu hniazda poŭnaje ramki miodu. Takaja ramka jznoŭ budzie pieraharodkaj i razdzielić pčaliny kłubok na dźvie častki, što moža taksama davieści da pavažnaje straty.

c) Ramki z małoj kolkaściu miodu stavim za zatvor, abo vykručvajem na miadahoncy i padkarmlajem pčoły. Hety sposab tasujecca ŭ našaj praktycy.

d) Na kožnaj ramcy, zaniataj pčalinym kłubkom, pavinna być nia mienš jak 1,5 klgr. miodu, a nastupnyja ramki ŭsio bolš, tak, kab henych zapasaŭ chapała da času ciaplejšaje pahody, sakavika ci krasavika nastupnaha hodu.

e) Urešcie, nia možna zabyvacca i ab tym, što dla ŭzhadavańnia čeru patrebny ŭ vulli i ramki sa dźvie z piarhoju.

*V. Papucevič*

## Jak pčoły žyvuć uzimku?

Pčalinaja siamja tvoryć uzimku kłubok, padobny da raja, jaki visić na suku. Zimovy kłubok pčoł maje dva procilehłyja kancy. Vierchni tupy datykajecca da spodniaha bieraha miodnaj šapki. Spodni kaniec kłubka vostry i siahaje blizu lotki. Pčoły, što znachodziacca na hetym vostrym kancy, prajaŭlajuć zaŭsiody najbolš žyćcia. Jany cicha pierasuvajucca adna kala druhoj i to tym cišej, čym lotka šyrej adčyniena. I naadvarot—čym mienš dapłyvaje śviežaha pavietra, tym ruch pčoł na hetym kancy pavalniejšy. Pry šyroka adčynienaj lotcy pčoły, što tvorać hety vostry kaniec musiać skora ruchacca, kab vytvaryć patrebnaj da žyćcia ciapło, bo ŭ praciŭnym vypadku zamierźli-b. Jany lezuć uvierch, biaruć korm, złaziać uniz, dzielacca im z hałodnymi pčołami, budučy takim čynam hałoŭnymi spažyŭcami cełaj siamji. Dziela taho mylecca tyja, što dumajuć, što pčoły, siedziačyja niejki čas naviersie, byccam lezuć paśla ŭ nutro kłubka, a ich zastupajuć pčoły inšyja, što byli dahetul usiaredzinie. Pčoły, jakija siadziać na viersie zimovaha kłubka, astajucca tam ad vosieni i až da viasny. Jany, abyjmajuć uvieś kłubok ad nizu da vierchu byccam kažuchom, jany prynosiać patrebny korm i padajuć jaho inšym pčołam.

Pčoły na viersie kłubka, heta kolišnija letnija pčoły. jakija i ŭzimku, jak pierš uletku, dbajuć ab prakarmleńnie kłubka. Pčoły, što siadziać u čaračkach, zachoŭvajucca zusim spakojna i naahuł nie atrymoŭvujuć nijakaha blizu kormu. Pry absalutnym spakoi ŭnutry pnia, žyvuć jany cełymi tydniami svaim sobskim tukam. Tyja-ž pčoły, jakija siadziać na viersie kłubka, majuć za zadańnie ŭtrymać ciapło; da hetaha patrebien ruch i korm.

Pčoły kormiacca ŭzimku dvajakim sposabam: 1. častkava pry stałaj vonkavaj temperatury (+4° da +6° C.), h. zn. pčoły, jakija siadziać na viersie kłubka, biaruć hrupami korm i dzielacca im z reštaj pčoł, 2. u časie ciaplejšaj pahody, kormiacca ahułam ŭsie pčoły, kab zapasicca ŭ siłu i ciapło na čas zimniejšy. Kali vonkavaja temperatura padyjmiecca na 11—12°C, tady zimovy pčaliny kłubok rassypajecca. Usie pčoły biaz vyniatku pryjmajuć korm; navat tyja, jakija dahetul paścili, siedziačy niaruchoma ŭ čarkach, biaruć ciapier svaju častku. Na takoje ahulnaje padkarmleńnie silnaj siamji patrebna kormu 200 - 300 hramaŭ. Paśla pčoły mohuć uznoŭ haładać praz 2 3 tydni, pakul uznoŭ atrymajuć korm ad svaich siaścior, jakija siadziać na viersie kłubka.

Kali pčoły siadziać zamknionym kłubkom, dyk temperatura ad siaredziny da pavierchni stała panižajecca. Usiaredzinie kłubka temperatura vynosić 20- 25°C, a na viersie kłubka, dzie ŭvichajucca najstaršyja pčoły, temperatura vynosić tolki 11 °C. Jak doŭha taki stan temperatury tryvaje, kłubok visić spakojna. Kali-ž temperatura abnizicca, pčoły stanoviacca niespakojnymi, ruchajuć kryłcami i hetkim sposabam pieranosiać niespakoj u siaredzinu kłubka. Pčalinaja siamja pačynaje hetkim sposabam sahravać vulej, a atrymanaje hetak ciapło zatrymlivajecca ŭ kłubku, bo jon ściahvajecca (korčycca) i ščeliny miž paasobnymi pčołami malejuć. Hetkim sposabam pčalinaja siamja ŭznoŭ adpačyvaje. Hetkaje samasahravańnie kaštuje davoli doraha: pčalar za jaho płacić miodam, jaki pčoły pajadajuć, a sami pčoły płaciać za heta žyćciom... A kali viasnoj pčalar znachodzie ŭ vulloch šmat trupoŭ, dyk heta znak, što kiepska jon zazimavaŭ svaje pčoły, układajučy im za šyrokaje hniazdo.

(Pavodle *D-ra Filipsa*)

## Дзе і колькі гадуюць гаспадарскай жывёлы?

Дакладнага аблічэньня на гэта няма. Лічбы якія падаюцца, гэта толькі стан прыблізны, асабліва для тых краёў, дзе культура стаіць ніжэй і дзе такое падлічаньне рабіць вельмі цяжка. На падставе дагэтуляшніх дадзеных з 1930 году, стан гаспадарскай жывёлы прадстаўляўся гэтак:

Скаціны на ўсім сьвеце было 580 мільёнаў штук. З гэтай лічбы на Індыю прыпадала 150 міль., на ўсю тэрыторыю б. Расеі — 70 мільёнаў, на Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі — 60 міль., Аргентыну — 38 міль., на Бразылію — 22, на Нямеччыну 18.

Коняў у тым-жа часе было 110 мільёнаў штук. Цікава, што 200 гадоў таму назад лічба коняў дасягала 200 міль. штук. Найбольш коняў было нарахована у б. Расеі — каля 35 мільёнаў штук, далей — у Злуч. Штатах Паўн. Амэрыкі — 20 міл., у Аргентыне — 9 міл. у Кітаі — 4 з паловай міль.

Авечак хоць налічана было 640 мільёнаў штук, аднак ёсьць краіна, дзе іх зусім няма (Кітай). Найбольш авечак было ў б. Расеі — 125 міль. штук, пасьля ў Аўстрыі — 100 міль, у Злуч. Штатах. П. Ам. — 4? міль. у Індыі — 35 міль, у Аргентыне — 30 міль., у Паўднёва-Афрыканскім Саюзе — 30 міль. і г. д.

Сьвіней на цэлым сьвеце было нарахавана 260 міль. штук. Найбольш іх было ў Злуч. Штатах П. Ам — 56 міль. штук, у Кітаі — 45 міль. штук, у Нямеччыне ды калішняй Расеі па 22 міль., у Бразыліі — 17 міль., у Норвэгіі — 12 міль. Зусім няма сьвіней у Індыі; ня было іх да нядаўна і ў Турцыі.

Козаў на цэлым сьвеце было налічана 170 міль. штук. Найбольш іх было у Індыі — 60 міль., у Кітаі — 22 міль., у б. Расеі — 15 міль., у Турцыі — 10 міль. — Вельмі мала налічана было козаў у Амэрыцы, Аўстраліі і Англіі.

